ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 70 (1707) | Пятніца, 31 жніўня 1962 года | Цана 4 кап.

**У ГЭТЫМ НУМАРЫ**



## ЗАЎТРА — ПЕРШЫ ЗВАНОК

*Нашы інтэрв'ю*

ЗАЎТРА пачынаюцца заняткі ў навучальных установах нашай краіны. У дзевяць гадзін празвініць званок. Ён пакліча тысячы студэнтаў у прасторныя, светлыя аўдыторыі інстытутаў і тэхнікумаў. Што цікавага прынясе гэты навучальны год будучым маладым спецыялістам, якія задачы належыць вырашыць? З такімі пытаннямі мы звярнуліся да міністра вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі Беларусі Міхаіла Васільевіча Дарашэвіча.

Вось што ён расказаў:

— Перш за ўсё пра «геаграфію» нашых інстытутаў і тэхнікумаў. Калі гарады, якія маюць навучальныя ўстановы, адзначыць сцяжкамі, дык на карце гэтых сцяжкоў будзе вельмі многа. У кожным абласным цэнтры рэспублікі, як правіла, тры-чатыры а то і больш вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў. У леташнім годзе ў нашай рэспубліцы была адкрыта 25-я па ліку вышэйшая навучальная ўстанова. Гэта самая маладая ў Беларусі вну — Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут. У параўнанні з мінулым годам значна павялічыўся прыём студэнтаў.

Некалькі слоў пра арганізацыю прыёму. Вядома, што ў мінулыя гады меліся сур'ёзныя недахопы. Дапускаліся парушэнні на конкурсных экзаменах. У сёлетнім годзе ў працы прыёмных камісій удзельнічалі прадстаўнікі шырокай грамадскасці. Нам думаецца, што патрабавальнасць, якая была праяўлена пры адборы абітурыентаў, дала магчымасць атрымаць добрае папаўненне. У інстытуты і тэхнікумы прыйшлі многія ўдарнікі камуністычнай працы, якія маюць намер атрымаць вышэйшую і сярэднюю адукацыю без адрыву ад вытворчасці.

Вячэрняе аддзяленне Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута працуе з мінулага года. Яно паспела ўжо сябе добра паказаць. Да яго пацягнуліся многія таленавітыя ўмельцы, майстры прыкладнога мастацтва, людзі, якія заняты ў мастацкіх промыслах, работнікі манументальна-дэкаратыўнага жывапісу, спецыялісты па мастацкай апрацоўцы тканін. У такіх кадрах з высокай мастацкай падрыхтоўкай наша рэспубліка адчувае востры недахоп.

Дарэчы пра эстэтычную падрыхтоўку студэнтаў іншых навучальных устаноў. Уявіце сабе афішную тумбу. Афіша на ёй заклікае вас на канцэрт самадзейнасці вядомага ў рэспубліцы калектыву. Гэты хор неаднаразова займаў першыя месцы на аглядах. З пахвалой гледачы гавораць пра поспехі самадзейнасці Мінскага педагагічнага інстытута. Моцны калектыў мастацкай самадзейнасці і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Сярод студэнтаў нямала таленавітых чытальнікаў, дэкламатараў, сольных спевакоў, добрых танцораў. Але як вырашыць пытанне аб іх спецыяльнай падрыхтоўцы, што зрабіць для таго, каб гэтыя таленты развіваліся і ўдасканальваліся?

Калегія Міністэрства па дамоўленасці з іншымі ведамствамі вырашыла ў гэтым годзе арганізаваць ва ўсіх вышэйшых навучальных установах рэспублікі факультэты культуры. Яны будуць працаваць на грамадскіх асновах. Калі ў студэнта ёсць схільнасць да харавой культуры, ён атрымае спецыяльную падрыхтоўку, калі ён цікавіцца тэатрам, дык перад ім адкрыецца дарога да тэатральнага мастацтва. Няма сумнення, што, вырашыўшы задачу падрыхтоўкі студэнта ў эстэтычных адносінах, мы здолеем выхаваць спецыяліста, які адначасова са сваёй асноўнай працай будзе весці гурткі мастацкай самадзейнасці на заводзе, фабрыцы, у калгасе.

Нам думаецца, што студэнты ахвотна адгукнуцца на гэту ініцыятыву.

А як быць з падрыхтоўкай спецыялістаў па мастацкаму выхаванню для сярэдніх і пачатковых школ?

Гэтае пытанне заслугоўвае вялікай увагі. Часта ў школах выкладанне спеваў або малявання даручаецца зусім непадрыхтаваным у гэтай галіне людзям. Часам у гадзіны спеваў вучні проста прагульваюцца па калідорах або па школьных пляцоўках. Каб забяспечыць школы выкладчыкамі спеваў, мы адкрылі спецыяльны літаратурна-музычны факультэт пры Мінскім педагагічным інстытуце. На факультэт прыйшла моладзь, якая здолее пасля заканчэння інстытута адначасова выкладаць мовы, літаратуры і спевы.

Падрыхтоўкай выкладчыкаў малявання, графікі, чарчэння, як і ў мінулыя гады, займаецца адна са старэйшых навучальных устаноў — Віцебскі педагагічны інстытут.

Немалое папаўненне прыйдзе і ў нашы тэхнікумы і культасветвучылішчы.

Новы навучальны год у сярэдніх спецыяльных навучальных установах прынясе нямала новага. Гутарка ідзе ў першую чаргу пра значна палепшаныя новыя праграмы, якія дадуць магчымасць вырашыць пытанне лепшай падрыхтоўкі спецыялістаў сярэдняй кваліфікацыі. Калі гаварыць пра папаўненне, дык трэба перш за ўсё адзначыць, што ў нашы тэхнікумы, асабліва на завочныя аддзяленні, прыйшлі людзі з практычным вопытам. Вось прыклад. У прыёмную камісію на завочнае аддзяленне Гродзенскага культасветвучылішча было пададзена 110 заяў. Прынята 90 чалавек. Хто яны? Галоўным чынам работнікі сельскіх клубаў, актыўныя ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Тое ж самае і ў Магілёве. Тут на аддзяленне завочнага навучання вучылішча прынята 180 чалавек. Сярод іх многа работнікаў сельскіх культасветустаноў, добрых, здольных арганізатараў культурна-масавай работы ў вёсцы.

У Магілёўскага бібліятэчнага тэхнікума свая цікавая гісторыя. Да мінулага года ён знаходзіўся ў сталіцы. Перасяляючыся на новае месца, тэхнікум меў немалыя цяжкасці. У першую чаргу гэта выклікана было тым, што многія выкладчыкі не захацелі са сталіцы пераязджаць у «правінцыю». Тэхнікуму дапамог прафесарска-выкладчыцкі састаў Магілёўскага педагагічнага інстытута. З вялікай любоўю студэнты адносяцца да выкладчыка А. Г. Храпуновай дацэнта Магілёўскага педінстытута, якая чытае лекцыі па культуры мовы. Яе заўсёды слухаюць з увагай. Пашанцавала тэхнікуму і з памяшканнем.

Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум у гэтым годзе прыняў на дзённае аддзяленне 150 чалавек, на завочнае — 300. У тэхнікум прыйшла не толькі моладзь са школьнай лаўкі, але і тыя, хто працаваў у бібліятэках рэспублікі.

Некалькі слоў пра матэрыяльную базу нашых навучальных устаноў. Вядзецца будаўніцтва велізарнага корпуса Мінскага педінстытута. Цэлы студэнцкі гарадок ствараецца ў Гродна для педагагічнага інстытута. Набываецца новая маёмасць, папаўняюцца абсталяваннем многія лабараторыі і кабінеты. Наш родны ўрад шчодра асігнуе сродкі на падрыхтоўку высокакваліфікаваных спецыялістаў, людзей, якім належыць жыць і працаваць у шчаслівым камуністычным грамадстве.



Кансерваторыя... Георгій Мазуркевіч і Тацяна Кароткая ўпершыню ўваходзяць сюды студэнтамі. На тварах іх не толькі радасць, а і заклапочанасць: трэба будзе шмат працаваць, каб авалодаць таямніцамі мастацтва.

Фота М. РУБІНШТЭЙНА.

## Паўка Карчагін і дадзеныя сказы

Сёння мы працягваем размову, пачатую артыкулам Р. Рэлеса «Пішаце без памылак... паступайце на філфак», які змешчаны ў газеце «Літаратура і мастацтва» за 21 жніўня гг. Артыкул зацікавіў і ўсхваляваў чытачоў. Аб гэтым сведчаць водгукі, якія паступаюць у рэдакцыю ад людзей самых разнастайных прафесій. Запрашаем прыняць удзел у абмеркаванні пытанняў выкладання літаратуры ў школах і вну ўсіх, каго гэта цікавіць. Чакаем, што ў гэтую размову ўключацца выкладчыкі літаратуры, студэнты філалагічных факультэтаў вну.

**Д. ФАКТАРОВІЧ,**
загадчык кафедры зарубежнай літаратуры БДУ імя Ул. І. Леніна.

ПЫТАННІ, узнятыя ў артыкуле Р. Рэлеса, трывожаць не адных толькі выкладчыкаў літаратуры, але і шырокую грамадскасць. Якім чынам рашуча палепшыць выкладанне літаратуры ў сярэдняй і вышэйшай школе? Як забяспечыць найлепшы адбор будучых спецыялістаў-філолагаў?

Начотніцкія прыёмы і метады школьнага аналізу справядліва выклікаюць трывогу. Калі факультэцкае абавязацельства медыкаў дыктуе не рабіць нічога такога, што пагражае чалавечаму жыццю, дык факультэцкае абавязацельства філолагаў, калі б яно існавала, мусіла б гучаць, на маю думку, так: ніколі не траціць любві да літаратуры, усімі сіламі розуму і сэрца садзейнічаць выхаванню ў моладзі пачуцця прыгожага. У гэтым плане агульны напрамак і пафас артыкула Р. Рэлеса не можа не выклікаць пачуцця прыхільнасці і глыбокага роздуму.

КАЛІ Я ЧЫТАЎ артыкул, мне ўспомнілася хвалюючая сустрэча двух вядомых педагогаў-славеснікаў — К. П. Крымскай і М. А. Рыбнікавай (абедзве — аўтары прызнаных падручнікаў, што не раз перавыдаваліся). У якасці падарунка Ксенія Пятроўна паднесла Марыі Аляксандраўне два сачыненні сваіх вучняў. Вучнёўскія сачыненні — так яна лічыла — найлепш расказвалі аб яе рабоце, аб ёй самой. Добра было б, калі б гэтак аб сабе расказвалі ўсе настаўнікі-літаратары!

Выкладаць літаратуру «з душой», абуджаць высакародныя парыванні ў падлеткаў — вось яна, наша праца як творчасць. Казёншчыну і дробязны педантызм неабходна вымятаць з практыкі славеснікаў. Бо, чэснае слова, надта ж горка чытаць у якасці рэзалюцыі на сачыненне «Чым дарагі нам Паўка Карчагін» словы: «Не ўжываюцца дадзеныя сказы прычыны».

Сістэма пісьмовых работ і сачыненняў, якая існуе ў школе, больш-менш апраўдвае сябе ў сярэдніх класах. Але калі ад сачыненняў па малюнках і апісальных характарыстык вучні пераходзяць да сачыненняў на так званыя «вольныя тэмы», то тут справа мяняецца. Методыка такіх сачыненняў па сутнасці не распрацавана. Сістэма ацэнак не заахвочвае да самастойнага мыслення, бо ацэнкі выстаўляюцца, як правіла, у залежнасці ад колькасці граматычных памылак. І гэта ў той час, як сачыненні на свабодныя, лепш кажучы, публіцыстычныя тэмы маюць вялізарнае навучальнае і выхаваўчае значэнне, бо яны дазваляюць адначасова ацэньваць начытанасць, самастойнасць мыслення вучня. А ці трэба гаварыць, што навучыць самастойна мысліць важна не толькі для будучых спецыялістаў літаратуры!

Методыка сачыненняў на свабодную тэму павінна быць гэтак жа практычна распрацавана, як у алгебраістаў распрацавана методыка рашэння тыпаў тых ці іншых задач. Ад сына мне давodзілася чуць, што «Антон Іванавіч ніколі не дае тыя самыя задачы, што ў падручніку». І яго захапленне тлумачылася тым, што ён і яго аднагодкі **ўсе** задачы **такога тыпу** рашалі. Вось і па літаратуры трэба рыхтаваць вучняў не да пісання сачыненняў па нейкаму канкрэтнаму літаратурнаму герою, а да свабодных разважанняў па прыказках, па крылатых словах, па публіцыстычных тэмах.

Хочацца, каб Міністэрства асветы смялей пераадольвала трафарэт, паўтор у тэматыцы сачыненняў, якая прапануецца школам. Часопіс «Народная асвета» мог бы за кошт артыкулаў метадыстаў, якія часам нічога новага не адкрываюць, хоць раз-два на год друкаваць лепшыя вучнёўскія сачыненні. Ды і не толькі сачыненні! Нашу ўвагу павінны прыцягваць работа літаратурных гурткоў, рукапісныя школьныя часопісы.

Але вось сачыненні напісаны. Настаўнік прынёс іх дамоў, увечары сеў чытаць і ацэньваць. У адрозненне ад выкладчыка алгебры, ён не можа зверыцца з адказам у канцы падручніка. Ён ацэньвае сачыненне ў параўнанні з іншымі і ў залежнасці ад свайго густу і вопыту. Школьнік, натуральна, верыць густу і вопыту настаўніка і спакойна едзе паступаць на філалагічны факультэт — ён жа атрымліваў па літаратуры толькі высокія адзнакі! Але на прыёмных экзаменах яго чакае расчараванне. Сачыненне, напісанае на ўзроўні, за які ён атрымліваў у сваёй школе «пяцёркі», тут ацэньваецца, як пасрэднае. Літаратура — не матэматыка, дзе ўсё вырашае супадзенне з адказам. І тое, што здавалася добрым пры параўнанні з работамі аднакласнікаў, аказалася шэрым пры спаборніцтве з сотнямі работ абітурыентаў.

Ці можна гэтага пазбегнуць? Ці можна знайсці нейкія больш-менш агульныя крытэрыі для ацэнкі літаратурных ведаў і здольнасцей школьнікаў? Думаецца, што самастойна і — не ў крыўду няхай будзе сказана — саматужна, настаўніку такі крытэрый цяжка знайсці. Ды і ці варта шукаць гэты крытэрый аднаму? Напрошваюцца рэкамендацыі. Хоць бы па прыкладу матэматычных алімпіяд. Чаму б не праводзіць у рэспубліканскім маштабе конкурсныя сачыненні на свабодныя тэмы? Або такі прыклад. Нашы школьнікі ходзяць у турысцкія паходы па месцах, звязаных з жыццём і творчасцю Я. Купалы і Я. Коласа. Хіба гэтыя паходы не могуць стаць тэмай сачыненняў, якія пайшлі б потым на разгляд кафедр вну. Наогул, калі б да нас, у вну, ішоў паток творчых сачыненняў старэйшых школьнікаў, калі б яны часцей абмяркоўваліся, гэта, бясспрэчна, дапамагло б у выяўленні людзей таленавітых. Да праверкі работ можна прыцягнуць студэнтаў. Медыкі яшчэ ў студэнцкія гады вучацца пісаць гісторыю хваробы; будучыя педагогі-літаратары павінны загадзя падрыхтавацца да рэцэнзавання вучнёўскіх сачыненняў. Калі ў нас у рэспубліцы будзе пісацца і правярацца да прыёмных экзаменаў мноства сачыненняў на публіцыстычныя тэмы, мы, відаць, атрымаем абгрунтаваныя рэкамендацыі, якія можна будзе прыраўняць да эцюднага экзамену ў мастацкай вну.

Не толькі аб пісьмовай мове будучых педагогаў-літаратараў трэба дбаць. А культура вуснай мовы! Як правіла, у школе клопаты аб ёй абмяжоўваюцца патрабаваннем ад вучняў так званага «выразнага чытання». А хіба менш важна навучыць наша юнацтва гаварыць у згодзе з розумам і сэрцам, ад сябе, а не ад папяровых тэзісаў. Хіба не насцярожвае ўсіх нас, асабліва выкладчыкаў літаратуры, распаўсюджаная схільнасць да шпаргалак пры любых вусных выступленнях!

УЯВІМ САБЕ, аднак, што на філалагічны факультэт прынят, нарэшце, чалавек, які падае надзеі. Трэба сказаць, паклаўшы руку на сэрца, што не заўсёды гэта гарантуе поспех. Мы, выкладчыкі вну, яшчэ вельмі часта бяром ад школьных метадаў горшае, не ведаем і не паважаем лепшага. На нашых філалагічных факультэтах вывучэнне літаратуры ўсё яшчэ не адпавядае запатрабаванням жыцця. Выкладанне мае недахопы і слабасці, уласцівыя нашаму літаратуразнаўству, ды яшчэ паглыбляе іх поўнай нераспрацаванасцю методыкі. Асабліва недапушчальна ў вышэйшай школе пагарджаць майстэрствам выкладання прадмета. А ў нас бездапаможнасць у прыёмах аналізу — з'ява штодзённая. Калі б той ці іншы лабарант не ўмеў ставіць доследы, яго б прагналі з работы. Калі б педагог-вакаліст не меў голасу, гэта безумоўна з'явілася б перашкодай у яго прафесіянальнай дзейнасці. А на філалагічным факультэце чалавек можа дзесяцігоддзямі выкладаць літаратуру з чужога голасу або па даўніх запісах. І гэта ў той час, калі даўно вядома, што літаратура, як ніякі іншы прадмет, патрабуе ад выкладчыка абавязковага спалучэння эрудыцыі з выразнасцю сваіх адносін і аргументаванасцю ацэнкі.

Кожная наша лекцыя перад будучымі настаўнікамі-спецыялістамі па літаратуры павінна не толькі ўзбагачаць пэўнымі фактамі, узбройваць канцэпцыяй гісторыка-літаратурнага развіцця, але і набліжаць да разумення майстэрства. Майстэрства мастака і майстэрства крытыкі, аналізу. У нашым прадмеце начытанасць у класічнай крытыцы дае магчымасць меркаваць аб грунтоўнасці ведаў. І не варта было б Р. Рэлесу падкрэсліваць думку, што студэнт заўсёды павінен даваць асабістую ацэнку таго ці іншага класічнага твора. Ці не прыслухацца лепш да Л. М. Талстога, які прызнаваўся, што да таго, як прачытаў артыкул Бялінскага пра Пушкіна, не разумеў рамана «Яўгеній Анегін». Літаратар, які працуе ў вну, павінен быць адначасова і навуковым работнікам і папулярызатарам у тым сэнсе гэтага слова, які яму надаваў Д. Пісараў, калі пісаў, «што папулярызатар павінен... пры дапамозе зліцця навукі з мастацтвам даць ім такую выдатную магутнасць, якой яны не маглі б набыць уласнымі сродкамі».

КАЛІ МЫ ГАВОРЫМ пра ўмовы паспяховага выкладання літаратуры, нельга змоўчаць аб зусім нецярпімай перагрузцы славеснікаў сярэдняй і вышэйшай школы абавязковымі і неабавязковымі даручэннямі. І адным і другім даводзіцца весці да 18 гадзін аўдыторных заняткаў у тыдзень! А школьнаму настаўніку трэба яшчэ праверыць 200 сшыткаў. Такая перагрузка не пакідае часу для навукі, бо за кожнай гадзінай лекцыі павінна стаяць працяглая падрыхтоўка, пошукі, прадумванне. Я не першы стаўлю гэтае пытанне. Яно даўно гучыць і са старонак друку, і на настаўніцкіх нарадах, канферэнцыях.

Вядома, і пры гэтых не вельмі спрыяльных умовах многія педагогі — выкладчыкі літаратуры — дасягаюць добрых поспехаў. Хочацца назваць хоць бы імёны такіх настаўнікаў школ Мінска, як К. С. Валасевіч, І. Е. Сосінава, М. І. Масальская, Н. А. Лур'е, М. І. Чарняўскі. Гэтыя выкладчыкі атрымалі за грунтоўную падрыхтоўку школьнікаў падзякі філалагічных факультэтаў вну Масквы і Ленінграда. Іх вопыт варта было б актыўней абагульняць і распаўсюджваць.

І ўсё ж трывога, якая выказваецца ў артыкуле «Пішаце без памылак... паступайце на філфак» — справядлівая. Вось таму я палічыў патрэбным напісаць гэтыя нататкі.

## ДЛЯ ТАЛЕНАВІТЫХ ДЗЯЦЕЙ

11-гадовая рэспубліканская школа-інтэрнат музычна-мастацкага выхавання дзяцей адкрылася ў Мінску. У гэтым годзе на яе два аддзяленні — музычнае і выяўленчага мастацтва — прымаецца 50 таленавітых дзяцей.

Акрамя агульнай сярэдняй адукацыі іх выхаванцы з першага класа будуць атрымліваць падрыхтоўку па адной са спецыяльнасцей — піяніста, скрыпача, віяланчаліста, цымбаліста, у галіне жывапісу і скульптуры. З наступнага года намячаецца таксама адкрыць аддзяленне харэаграфіі. Асноўная задача новай школы — рыхтаваць абітурыентаў для мастацкіх вну рэспублікі.

Плануецца будаўніцтва спецыяльнага гарадка для гэтай школы, які ўвойдзе ў строй да 1964 года.

У рэспубліцы гэта другая навучальная ўстанова для таленавітых дзяцей. У Мінску ўжо доўгі час працуе дзіцячы дом мастацкага выхавання, у якім сярэднюю адукацыю і адпаведную спецыяльную падрыхтоўку атрымліваюць таленавітыя дзеці, якія страцілі бацькоў.

Падрыхтоўкай кадраў кампазітараў, музыкантаў, спевакоў, акцёраў, рэжысёраў, мастакоў, музыказнаўцаў і мастацтвазнаўцаў у рэспубліцы займаюцца кансерваторыя, тэатральна-мастацкі інстытут. Спецыялістаў з сярэдняй музычнай адукацыяй рыхтуюць 6 музычных, 2 музычна-педагагічныя вучылішчы. Пры тэатры оперы і балета працуе харэаграфічнае вучылішча.

Побач з клопатамі аб развіцці прафесіянальнага мастацтва многае ўжо зроблена, каб падрастаючае пакаленне расло ўсебакова развітым. У рэспубліцы дзейнічаюць цяпер 97 музычных школ-сямігодак. Развіццю мастацкіх і музычных густаў дзяцей таксама садзейнічаюць сотні музычных, харавых, харэаграфічных ансамбляў, гурткоў выяўленчага мастацтва і студый, якія дзейнічаюць пры клубах і дамах культуры, палацах і дамах піянераў.

## ДЗЕВЯЦЬСОТ КАНЦЭРТАЎ ТАНЦАВАЛЬНАГА КАЛЕКТЫВУ

Пасля працоўнага дня клуб сельгасарцелі імя Дзімітрава Віцебскага раёна запоўнілі жывёлаводы, механізатары, паляводы. Гледачы горача апладзіравалі выканаўцам беларускай полькі-жарту, польскага народнага танца «Аберак», венгерскага «Чардаша» і іншых танцаў. Гэта быў 900 канцэрт народнага ансамбля танца Віцебскага раённага Дома культуры.

Танцавальны самадзейны калектыў створан у 1950 годзе. Яго заснавальнікам з'явіўся вядомы збіральнік беларускага танцавальнага фальклору К. К. Партной, які і цяпер з'яўляецца мастацкім кіраўніком ансамбля.

Цяпер у калектыве налічваецца каля 50 выканаўцаў. Гэта людзі розных прафесій і ўзростаў. У ім удзельнічаюць работніцы фабрыкі «КІМ» сёстры Ларыса і Любоў Раманенкі, швачка фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» ўдарніца камуністычнай працы Людміла Марылава, студэнт медыцынскага інстытута Анатоль Асіпенка, студэнтка Лужаснянскага сельскагаспадарчага тэхнікума Ада Голасава, муж і жонка Павел і Галіна Гарбуновы, сёстры Таіса і Ларыса Цыганковы і іншыя.

Сваё майстэрства самадзейныя артысты паказалі ва ўсіх раёнах Віцебшчыны, а таксама ў Пскоўскай, Смаленскай, Магілёўскай абласцях, у Мінску. Нядаўна ансамбль паспяхова выступіў у Маскве на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі. За высокае майстэрства ён быў узнагароджан памятным медалем, а 30 лепшых яго ўдзельнікаў — Ганаровымі граматамі.

Акрамя народных танцаў, у рэпертуары ансамбля поспехам карыстаюцца харэаграфічныя карцінкі «Дарогу кукурузе», «Больш мяса і малака», «На паўстанку», «Залп Аўроры» і іншыя.

У песнях, танцах, музычных карцінках самадзейныя артысты праслаўляюць дружбу народаў нашай шматнацыянальнай радзімы, іх радаснае працоўнае жыццё.

Цяпер ансамбль рыхтуе вялікую танцавальную кампазіцыю, якая адлюстроўвае самаадданую працу механізатараў, жывёлаводаў, паляводаў.

Танцавальны калектыў неаднаразова адзначаўся граматамі, дыпломамі і прэміямі на раённых, абласных і рэспубліканскіх аглядах мастацкай самадзейнасці. Калектыў адзначан таксама Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

(БЕЛТА).



Любяць свой Дом культуры хлебаробы сельгасарцелі «Чырвоная зорка» Барысаўскага раёна. У клубе ёсць глядзельная зала на 500 месц, бібліятэка, чытальная зала, пакоі для гуртковай работы. Тут рэгулярна дэманструюцца мастацкія і навукова-папулярныя фільмы, выступаюць з канцэртамі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. У госці да калгаснікаў часта прыязджаюць артысты з Мінска, Барысава і іншых гарадоў.

На здымку: Дом культуры калгаса «Чырвоная зорка».

Фота Ул. ЛУПЕЙКІ. (БЕЛТА)

## МУЗЕЙ Я. КОЛАСА Ў ВІЛЬНЮСЕ

Жыццё і творчасць Я. Коласа цесна звязаны з Вільнюсам, дзе доўгі час жыў і пісаў свае вершы пясняр беларускага народа. Жыхары сталіцы Савецкай Літвы свята ўшаноўваюць памяць Якуба Коласа: у месцах, звязаных з жыццём паэта, устаноўлены мемарыяльныя дошкі, у бібліятэках зроблены стэнды, прысвечаныя яго жыццю і творчасці.

Да 80-годдзя з дня нараджэння паэта ў Вільнюсе, па вуліцы Келейвю, будзе адкрыт мемарыяльны музей Я. Коласа. Навуковыя супрацоўнікі рыхтуюць экспанаты будучага музея.

**А. ГРЫШКЕНАС.**

г. Вільнюс.

# РАБОТНІК КУЛЬТУРЫ—ТВОРЦА

**Яўген КАРШУКОЎ**

Гэта было некалькі год назад. Тады я толькі што пачаў працаваць у рэдакцыі Веткаўскай раённай газеты. Неяк да нас зайшоў высокі, шыракаплечы, з ваеннай выпраўкай мужчына. Прывітаўшыся, ён уважлівым позіркам абвёў наш невялічкі рэдакцыйны пакойчык і падышоў да мяне.

— Я хацеў бы з вамі пагаварыць...

— Калі ласка. Заметку прынеслі? Ці можа... вершы?

— Што вы! — жартам адмахнуўся ён. — Ніколі не пісаў вершаў... У мяне тут да вас свая справа. Але давайце пазнаёмімся. Я — новы дырэктар раённага Дома культуры.

Ён назваў сваё прозвішча: Дудкін, Васіль Пятровіч. Затым сеў і адразу ж горача, энергічна жэстыкулюючы, загаварыў. Ён цікава расказаў аб плане работы Дома культуры, аб тым, што думае арганізаваць агітбрыгаду для выездаў на вёску. Але вось сустрэўся з цяжкасцямі — пры раённым Доме культуры амаль не працуюць гурткі мастацкай самадзейнасці. А ў раённым цэнтры — многа моладзі. Трэба толькі яе арганізаваць. У заключэнне нашай гутаркі Васіль Пятровіч прасіў памагчы справе праз газету. Калі трэба — ён напіша заметку, у якой раскажа аб перспектывах работы раённага Дома культуры.

— А вас асабіста я запрашаю ў наш драматычны гурток, — нечакана прапанаваў ён. — Вельмі цікавы ёсць у мяне адзін вадэвіль... Вось паглядзіце.

І тут жа ён падаў мне невялічкую кніжачку. Я спрабаваў адмаўляцца — маўляў, многа работы, няма артыстычных здольнасцей. Але дарэмна: у Васіля Пятровіча, відаць, быў незвычайны талент угаворваць...

І вось праз нейкі тыдзень мы пачалі рэпетыцыі. Стаяў чэрвень. Днём я раз'язджаў на рэдакцыйным матацыкле па калгасах раёна, збіраючы інфармацыю для газеты, а пад вечар, нягледзячы на стомленасць, ішоў на заняткі драмгуртка ў Дом культуры. Памятаю, разам са мною прыходзілі пасля работы рабочы Гаўрылаў, інжынер Баранаў, настаўнікі Паўлава і Чарнаглаз... І кожны вечар сярод нас быў, вядома, Васіль Пятровіч — ён не толькі даваў трапныя заўвагі «акцёрам» па ходу рэпетыцыі, але і сам удзельнічаў у п'есе. Ён жа кіраваў струнным гуртком, нярэдка акампаніраваў на баяне харыстам. Рухавы, энергічны Васіль Пятровіч паспяваў усюды. Да гэтага часу я не магу забыць яго цёплую, вясёлую ўсмешку і незвычайна жвавыя вочы. Яго жыццярадаснасць перадавалася і нам, удзельнікам мастацкай самадзейнасці, абнадзейвала.

У тое лета, памятаю, раённая агітбрыгада зрабіла многа выездаў у калгасы і саўгасы, выступала не толькі ў клубах, але і непасрэдна на полі. І ўсюды хлебаробы добра прымалі нас, горача дзякавалі за цікавыя і карысныя выступленні.

Не так даўно па справах я зноў трапіў у Ветку. Як былы ўдзельнік мастацкай самадзейнасці, я пацікавіўся ў знаёмых, як ідуць справы ў раённым Доме культуры. Тое, што я пачуў, не абрадавала мяне: заглухла культурна-масавая работа не толькі ў раённым цэнтры, але і ва ўсім раёне. У размове з работнікам райкома партыі Сцяпанам Іосіфавічам Кукалкам, я паспрабаваў высветліць, у чым прычына такога становішча. І мой субяседнік адкрыў мне вочы.

— Уся бяда ў тым, — сказаў ён, — што ў нас дрэнна яшчэ ставяцца да падбору кадраў культработнікаў... Нярэдка на пасаду кіраўнікоў культасветустаноў прызначаюць абы каго. У мінулым годзе ў Ветку, напрыклад, завітаў нехта Дзяменцьеў. Адрэкамендаваўся артыстам. Назваў некалькі вядомых п'ес, у якіх нібыта ён з поспехам выконваў галоўныя ролі. І ў аддзеле культуры Веткаўскага райвыканкома, не праверыўшы, што ён за «артыст», з радасцю афармілі Дзяменцьева дырэктарам Дома культуры.

— Ну, і што, ён, відаць, не справіўся са сваімі абавязкамі? — запытаў я.

— Каб толькі гэта. Справа ў тым, што наш «артыст» аказаўся аферыстам: праз які там месяц прысвоіў дзяржаўныя грошы і даў драла... А калі яго затрымалі, выявілася, што Дзяменцьеў зусім не той, за каго сябе выдаваў, а злодзей з практыкай.

Сумна ўсміхаючыся, Сцяпан Іосіфавіч на хвіліну замоўк. Я разумеў, што яму непрыемна ўспамінаць гэты выпадак.

— Або вось яшчэ такі прыклад, — працягваў субяседнік. — За пяць апошніх год у нас у райвыканкоме змянілася пяць загадчыкаў аддзела культуры...

Сцяпан Іосіфавіч пералічыў мне прозвішчы. У асноўным гэтых людзей я ведаў, сустракаўся з імі ў час работы ў раённай газеце. Усе яны ўваходзілі, як кажуць, у спіс работнікаў раённага звяна. Іх звальнялі з адной пасады і пераводзілі на другую — усё роўна якую. Пры гэтым, не ўлічвалі самага галоўнага — дзелавых якасцей, спецыяльнай падрыхтоўкі. Адзін з іх, Бабіч, быў неблагім старшынёй калгаса. Сельскую гаспадарку ён ведаў нядрэнна, а вось што датычыць культуры — тут пахваліцца ён нічым не мог... Такімі ж якасцямі вызначаліся і яго папярэднікі на пасадзе загадчыкаў аддзела культуры. Ажывіць, наладзіць культурна-масавую работу ў раёне ім было не пад сілу.

Я наўмысна пачаў з успамінаў, з расказу аб Васілю Дудкіну. У цяжкай і адказнай рабоце дырэктара Дома культуры ён выдатна праявіў свае арганізатарскія здольнасці. І яго, безумоўна, цікавіла не пасада дырэктара, а сапраўдная творчая работа.

Цяпер дырэктарам Веткаўскага раённага Дома культуры працуе Аляксандр Кісялёў. Цяжка аб ім, як аб кіраўніку, сказаць нешта станоўчае. Ды вось як пра яго гавораць самі адказныя раённыя работнікі:

— Гэта праўда, культработнік ён дрэнны, без ініцыятывы, але ж чалавек харошы... Шкада яго звальняць з работы.

І — не звальняюць. На тое, што Кісялёў нічога не робіць, што Дом культуры губляе сваю былую славу, а гурткі мастацкай самадзейнасці працуюць нездавальняюча — глядзяць праз пальцы. Хіба ж можна даравалць, што агітбрыгада РДК за час уборачнай кампаніі ні разу не пабывала ў вёсцы?

Штодня ў Доме культуры — кіно. Праўда, зрэдку тут можна пачуць і мелодыю песні — ідуць заняткі харавога гуртка. Але ўдзельнікаў у гуртку мала, а драматычны гурток наогул не збіраецца... Я зайшоў у пустуючы Дом культуры, успомніў, як было шумна ў ім калісьці, калі збіраліся гуртkоўцы, і мне стала вельмі прыкра. Прыкра за жыхароў горада, за моладзь, што не ўдзельнічае ў клубнай рабоце і не мае магчымасці праявіць свае здольнасці...

Гэтае пачуццё не пакідала мяне, калі я знаёміўся з некаторымі работнікамі сельскіх клубаў раёна. Давялося мне наведаць вёску Старое Сяло. Клуб, нягледзячы на рабочы час, быў на замку. Ледзь-ледзь я адшукаў клубнага бібліятэкара Ганну Грамыка. Хацелася шчыра папытаць у яе, што робіць клуб, якія цяжкасці ў працы, якія планы на будучае... На жаль, такой размовы ў нас не атрымалася. Чаму? Ды таму, што клуб ніякай культурнай работы сярод насельніцтва, па сутнасці, не праводзіць. Лекцыі не чытаюцца. Вечары пытанняў і адказаў не наладжваюцца. Гурткі мастацкай самадзейнасці не працуюць. Дык можа хоць кніга добра сярод калгаснікаў прапагандуецца? Таксама пахваліцца няма чым.

— А як сёлета ў вас папоўнілася навінкамі бібліятэка? — пацікавіўся я.

— Папоўнілася...

— А што вы атрымалі?

— Ды кнігі нейкіх беларускіх аўтараў... Усё не збяруся паглядзець іх.

Больш аб прапагандзе літаратуры гаварыць з Ганнай Грамыка я палічыў непатрэбным.

А між тым, колькі ў Веткаўскім раёне яшчэ вось такіх, з дазволу сказаць, культработнікаў. Дрэнна працуюць сельскія клубы ў вёсках Радуга, Шарсцін, Прысно... Гэты спіс можна, на жаль, яшчэ прадоўжыць.

У пачатку жніўня я трапіў па справах у Буда-Кашалёўскі раён. Былі вольныя гадзіны, і я вырашыў заглянуць у адзін з сельскіх клубаў мясцовага саўгаса ў вёсцы Кашалёва. Нават клуб знайшоў не адразу — ніякай шыльды на будынку яго не было. Дзверы замкнёныя. Праз акно мне ўдалося прачытаць аб'яву: «Бібліятэка ў жніўні не працуе. Бібліятэкар — у адпачынку».

Мне захацелася сустрэць бібліятэкара, загадчыка клуба і высветліць — у чым прычына, чаму так абыякава ставяцца культработнікі да сваёй справы.

Загадчык клуба Ада Асавіцкая была дома. Наша размова, прыкладна, ішла так.

— Як працуе ваш клуб?

— Добра...

— Якія культурныя мерапрыемствы вы праводзіце сярод рабочых саўгаса?

— Паказваем кінафільмы...

І сапраўды, у гэты клуб людзі прыходзяць толькі паглядзець кінафільм. Лекцыі і даклады тут не чытаюцца. Гурткі мастацкай самадзейнасці распаліся. Сама Асавіцкая не бывае сярод жыхароў вёскі, далей сваёй хаты носа не паказвае. А клубная ж работа — гэта ў першую чаргу арганізатарская работа з людзьмі, і загадчык— арганізатар. Самае важнае для яго — дарога да людзей.

У мяне склалася ўражанне, што Асавіцкая не ўлавіла, не зразумела перамен у жыцці вёскі, новых запатрабаванняў сваіх аднавяскоўцаў. У яе ўяўленні клубная работа — гэта толькі кіно, танцы ды часам канферэнцыя чытачоў.

Відаць, такой жа думкі прытрымліваюцца і грамадскія арганізацыі вёскі, бо ў іх планах клубу не адводзіцца амаль ніякай ролі.

Я вёў гутарку з Асавіцкай і мне паступова станавілася зразумелым, што культурна-асветная работа не цікавіць яе. Ды ўрэшце і сама Асвіцкая не хавала гэтага — яна прызналася, што стала культработнікам выпадкова і ў культасветвучылішча пайшла вучыцца толькі таму, што там «навучаць іграць на домры»...

Размаўляючы з Асавіцкай, я яшчэ раз успомніў былога дырэктара Веткаўскага РДК Васіля Дудкіна. Вось такім ініцыятарам культурных спраў павінен быць кожны культработнік. Толькі так — штодзённа мэтанакіравана, з агеньчыкам, з жывінкай — трэба працаваць. Працаваць з душой, самаадданa. Сёння пытанне аб росце культуры на вёсцы такое ж важнае, як і пытанне ўздыму грамадскай гаспадаркі. І нельга, ні ў якім разе нельга, абыякава адносіцца да падбору кадраў культработнікаў.

г. Гомель.

## ДОМ ЛЯ ПОМНІКА ІЛЬІЧУ

**Ад помніка Ул. І. Леніну, што ўзвышаецца на Цэнтральнай плошчы ў Брэсце, ідзе ўніз невялікая вулічка — алея, абсаджаная маладымі ліпамі. А ў канцы яе ўзвышаецца светлы двухпавярховы будынак. Яго пабудавалі нядаўна і падаравалі юным грамадзянам горада—піянерам. Дзецям даўно ўжо было цесна ў невялікім асабняку, дзе шмат гадоў размяшчаўся Брэсцкі абласны Дом піянераў. А новае памяшканне павінна было ўзводзіцца яшчэ не хутка. Але калі за справу бяруцца энтузіясты — планы скарачаюцца і справы памнажаюцца. А ў энтузіязме недахопу не было. Першымі праявілі яго абкомаўскія камсамольцы. Загарэліся самі, натхнілі іншых. І вось неўзабаве маладыя архітэктары Брэсцкага аблпраекта ўзяліся за мадэрнізацыю тыпавога праекта школы. Будаўнікі ўзвялі будынак, прычым у асноўным на сэканомленыя сродкі. Калі ён быў гатоў, дырэкцыя Дома піянераў звярнулася да мастака В. Старчакова з просьбай афарміць інтэр'еры будынка. Старчакоў згадзіўся і, калі гутарка зайшла аб фінансавым баку справы, сказаў: «Няхай гэта будзе маім падарункам дзецям». І вось па яго эскізах і чарцяжах маляры афарбавалі памяшканне; на Брэсцкай і Пінскай мэблевых фабрыках зрабілі стэнды і мэблю.**

**На наваселле да дзяцей прыйшлі прадстаўнікі многіх устаноў і прадпрыемстваў горада. Прыйшлі не з пустымі рукамі, а як належыць прыходзіць на наваселле з падарункамі.**

**Брэсцкія мастакі паднеслі Дому піянераў свае карціны і эцюды. Рабочыя завода «Газапарат» адрамантавалі ў вольны час такарны станок і газавую пліту для гуртка дамаводства. Будаўнікі мантажнага ўпраўлення № 4 вырабілі абсталяванне для дзіцячага тэатра лялек. Работнікі абласнога Тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі і воіны мясцовага гарнізона афармілі і абсталявалі глядзельную залу і сцэну піянерскага тэатра.**

**Прыемна было піянерам. Але і яны стараюцца не застацца ў даўгу — прыязджаюць да сваіх шэфаў з канцэртамі, выступленнямі.**

**З не меншым задавальненнем, чым ігру прафесіянальных акцёраў, ходзяць брэстчане глядзець спектаклі агульнагарадскога дзіцячага тэатра пры Доме піянераў. Кіруе ім ветэран піянерскай работы актрыса Яўгенія Георгіеўна Гіоф. Але яна ажыццяўляе, як кажуць, толькі агульнае кіраўніцтва, бо ў тэатры ўсё робяць самі дзеці, і ў гэтым Яўгенія Георгіеўна бачыць вялікі сэнс — прывучыць дзяцей да самастойнай творчасці. Тут свой дырэктар, свой памочнік рэжысёра, загадчык рэквізіту, рабочыя сцэны, грымёры, цырульнік, касцюмёры, асвятляльнікі — усе «пасады» займаюць вучні. Нават акцябраты прымаюць актыўны ўдзел у рабоце тэатра. Ды ці маглі б паставіць без іх тут оперу «Муха-цакатуха»?**

**І неабавязкова актрысамі вырастуць гэтыя дзяўчынкі, якія сабраліся перад рэпетыцыяй у калідоры Дома піянераў, дзе сфатаграфаваў іх наш фотакарэспандэнт.**

## ЭСТАФЕТА ІДЗЕ ПА ВОБЛАСЦІ

**З раёна ў раён культасветработнікі Магілёўшчыны перадаюць эстафету прыгожых спраў. Яна прысвечана Дэкадзе самадзейнага мастацтва рэспублікі. Удзельнікі эстафеты рапартуюць аб поспехах работнікаў культасветустаноў у прапагандзе рашэнняў партыі і Савецкага ўрада, арганізацыі адпачынку працоўных. Перадаючы эстафету, удзельнікі мастацкай самадзейнасці арганізоўвалі канцэрты ў сельскіх дамах культуры, калгасных клубах.**

**Дэкадзе самадзейнага мастацтва прысвечаны рэпертуарны лісток, які выдае абласны Дом народнай творчасці. У лістку будуць змешчаны новыя вершы і песні савецкіх паэтаў і кампазітараў аб роднай Камуністычнай партыі. Намечана таксама выдаць зборнік твораў самадзейных кампазітараў Магілёўшчыны.**

## НАРАДА КУЛЬТАСВЕТРАБОТНІКАЎ

**Днямі Пружанскі РК КПБ сумесна з райкомам прафсаюза работнікаў культуры правёў нараду культасветработнікаў раёна па пытанню падрыхтоўкі ўстаноў культуры да Дэкады мастацкай самадзейнасці рэспублікі. Загадчыкі сельскіх дамоў культуры і клубаў расказалі аб падрыхтоўцы да дэкады, абмяняліся вопытам.**

**Затым з дакладам «Роля нагляднай агітацыі ў арганізацыі сацыялістычнага спаборніцтва» выступіў загадчык аддзела прапаганды і агітацыі РК КПБ А. Казлоўскі.**

**М. КЛІМЕЦ.**

## У БРАТНІЯ РЭСПУБЛІКІ

**Артысты Беларускай дзяржаўнай філармоніі — жаданыя госці ў братніх рэспубліках. Выступленні спевакоў, акрабатаў, чытальнікаў адбыліся ў канцэртных залах Вільнюса, Рыгі, Ленінграда, Тбілісі.**

**Нядаўна ў гастрольныя паездкі па гарадах братніх рэспублік накіраваліся тры брыгады. У Якуцкую АССР выехала брыгада, якую ўзначальвае артыст М. Пісьман. Перад хлебаробамі Цаліннага краю паспяхова выступае брыгада пад кіраўніцтвам артыста Р. Пятрэнкі. Брыгада М. Шышкіна пачала выступленні на сцэнах і эстрадных пляцоўках Краснадарскага краю.**

**Днямі дзве брыгады выязджаюць на гастролі на Украіну. Яны дадуць першыя канцэрты ў Луганску і Палтаве.**

## РЭДКІ МЕДАЛЬ

**Сотая гадавіна Барадзінскай бітвы ўрачыста адзначалася рускім народам. У памяць аб перамозе над французскімі захопнікамі быў адліты бронзавы медаль. Але, выпушчаны ў невялікай колькасці, ён даўно стаў рэдкім. Беларускі гісторыка-краязнаўчы музей набыў гэты медаль. На ім надпіс: «Славный год сей минул, но не пройдут содеянные в нем подвиги». Як вядома, гэтыя словы былі ўзяты з загаду М. І. Кутузава ў сувязі з выпускам медаля ў 1813 годзе ў гонар перамогі над ворагам.**

## Сустрэчы з воінамі

**Работнікі літаратуры і мастацтва нашай рэспублікі падтрымліваюць цесную сувязь з воінамі Беларускай ваеннай акругі. Нядаўна ў клубах Н-скай часці адбыліся сустрэчы салдат і сяржантаў з пісьменнікамі М. Аляксеевым і А. Лазнявым. А крыху раней рэжысёр кінастудыі «Беларусьфільм» І. Шульман расказаў воінам аб тым, як ствараліся фільмы «Чалавек не здаецца», «Шчасце трэба берагчы», паведаміў пра творчыя планы беларускіх кінематаграфістаў.**

*Пра першую кніжку пісьменніка*

# ЦІ ІСНУЕ

**А. ВЯРЦІНСКІ**

Блакітны вецер... Так называецца апавяданне. Так называецца ўся кніжка.

Чаму — блакітны? З якога часу вецер набыў такую афарбоўку? Ці гэта даніна маладога пісьменніка аднаму з «ізмаў», скажам—сімвалізму? Пагоня за прыгожым словам?

Не, толькі не гэта. Прачытайце гэты зборнік і вы зразумееце, што і блакітны вецер існуе ў прыродзе, і што аўтар кнігі Міхась Стральцоў — не з тых, хто любіць краснае слоўца, гучную фразу і, на першы погляд, зусім не красамоўны. Наадварот, ён немнагаслоўны. Але затое слова яго «нагое и точное», свежае і ёмкае. М. Стральцоў далёкі ад эфектнай фразы і позы і звязанага з імі фальшу, ад сумніцельнага дэвіза: ашарашвайце мешчаніна. Гэта з аднаго боку.

А з другога, што яшчэ больш прыемна, — не зацягнулася ў аўтара «Блакітнага ветру» і тое, што называюць вучнёўствам, пошукамі сваёй тэмы і самога сябе. Ён неяк змог абмінуць «пачатковую школу» з яе азамі, з яе «косай лінейкай», з «палачкамі» і «кручкамі» і адразу ж пачаў выводзіць не толькі літары, але і словы. Прытым самыя важныя, самыя істотныя: чалавек і жыццё, дабро і зло, цудоўнае і пошлае, любоў і нянавісць. І словы гэтыя, як мы цяпер бачым, ужо азначаюць не «чыстапісанне», і не «практыкаванне па мове», а самае што ні ёсць чалавеказнаўства — тую галоўную навуку, той прадмет, па якому перш за ўсё малады літаратар і павінен «спецыялізавацца» і затым трымаць экзамен.

Вельмі патрабавальны экзаменатар — чытач — можа быць задаволеным. Міхась Стральцоў, на маю думку, паспяхова здаў экзамен, прытым па аднаму з важных раздзелаў чалавеказнаўства. Аб гэтым гаворыць яго кніжка «Блакітны вецер».

Любоў і спагада да чалавека, засяроджаная ўвага да рухаў яго душы, да яго духоўнага быцця — гэта, можа быць, першае, што ўражае ў кніжцы, што характарызуе яе, робіць яе такой цэльнай і аднароднай. Чытаючы апавяданні М. Стральцова, не раз зноў падумаеш аб тым, што як быццам бы ўжо і вядома даўно, стала прапісной ісцінай, а іменна: што душа мастацтва, яго галоўная сутнасць — любоў да чалавека.

Важкім довадам гэтай думкі можа быць апавяданне «Перад дарогай», якое заключае кніжку. Яно не вылучаецца ні спрытна «закручаным» сюжэтам, ні складанымі сітуацыямі і перыпетыямі, ні выключнымі падзеямі. Што, уласна, адбываецца ў апавяданні? Прыехалі гараджане ў вёску па грыбы і, пабыўшы ў лесе, сядзяць у вясковай хаце, на кухні, чакаюць, пакуль сціхне дождж, які перашкаджае вярнуцца ў горад. І гавораць героі апавядання мала, так, перакідваюцца час ад часу словамі. Гаспадыня дома не ўступае асабліва ў гаворку, бо баіцца, каб «не так што сказаць». Шафёр Сямён Захаравіч увогуле не з гаваркіх. Тым больш, што тут, дзе «зусім, як у вёсцы», ён настроіўся на лірычны, летуценны лад, на роздум. Праўда, жонка мае звычку ўстаўляць «дзе не трэба, свае тры капейкі», але і яна падпарадкавалася добраахвотна агульнаму настрою. Такім чынам, нічога значнага на першы погляд у апавяданні не адбываецца.

І тым не менш яно надзвычай змястоўнае; яно многа гаворыць і розуму, і сэрцу. Яго, як добры верш, можна некалькі разоў перачытваць і кожны раз у ім будзеш знаходзіць нешта новае, незаўважанае раней. У чым тут сакрэт? Перш за ўсё, ў тым, што ў фокусе аўтарскай увагі—жывы чалавек. Той, хто чытаў апавяданне, не мог не прыкмеціць і не адчуць, як паказаны ўзаемаадносіны паміж персанажамі. На кухні, дзе яны сядзяць, слухаючы шапаценне дажджу і трэск дроў у печы, пануе атмасфера незвычайнай блізкасці, узаемнай чуласці і добразычлівасці. Сямён Захаравіч даруе жонцы тое, што яна крыху недарэчы выказалася. Не да гэтага. Тым больш, што «за доўгія гады, пражытыя з жонкай, ён добра ўведаў цану і сабе, і ёй». Амаль з сыноўняй пяшчотай адносіцца ён да гаспадыні, добрай вясковай жанчыны. Яна ж адплачвае тым жа. Ёй таксама па душы Сямён Захаравіч.

У атмасферы, што пануе ў вясковай хаце, праяўляецца ўнутраная накіраванасць аўтара, яго глыбокая чалавечная пазіцыя. І калі жонка Сямёна Захаравіча ўсё ж не зразумела свайго мужа, які сказаў летуценна: «Яно, маці, і тут добра, зусім, як у вёсцы». І калі вясковая жанчына не можа адказаць сабе, што ёй так падабаецца ў гарадскім шафёру,— тое, як ён вось так прыкурвае ад вугольчыка, ці нешта больш. І калі бухгалтару Саўчанку крыху няўцям, чаму Сямён Захаравіч не хоча расказваць пра вайну,—то ўжо аўтару, як кажуць, відней. Ён усё бачыць і разумее. Ён ведае, што жыццё яго героя ў нечым «сыходзілася з чужым. Было многа падобнага, але было і тое, чаго, ён ведаў, не будзе ніколі». Ведае, які сэнс тоіцца за словамі: жыццёвы вопыт, жыццёвы лёс. І ў маленькім апавяданні раскрываецца вялікі свет чалавечага сэрца — такі дзіўны і непаўторны. У ім і мінулае і сучаснае, нягоды і радасці, доўг сыноўні і доўг бацькоўскі, павага і любоў да чалавека, які ідзе ў жыцці побач, і да чалавека, з якім выпадкова сустрэўся. У ім, гэтым свеце, — і вайна—«страшная штука, замешаная на чалавечым жыцці і смерці», і мір, «тыя, спакойныя хвіліны», якія часам трымаюцца ў памяці больш, чым «страшнае і цяжкое». Пад Севастопалем, у зацішшы пасля бою, кранalася душы Сямёна Захаравіча «пакутная нейкая яснасць, адкрываўся яму, здаралася, краёчак таго, звычайнага і амаль недаступнага ўжо жыцця. Ён бачыў мора: яно ляжала спакойнае, сіняе, светлае, ахутанае ўдалечы ласкавай смугой, дэльфіны куляліся на рэдкіх хвалях, і, здавалася, не было навокал ні вайны, ні смерці, ні спякотнага неба, белага, як выцвілы брызент, ні свежай крыві, што цьмяна блішчала на сонцы».

І, нарэшце, у жыцці героя апавядання ўвайшоў вось гэты дзень—з падарожжам у вёску, з грыбамі, з дажджом, з вясковай кухняй, з ціхай гамонкай, з роздумам і ўспамінамі. Адзін з тых дзён, якія нібыта абнаўляюць чалавека, прымушаюць яго неяк па-новаму паглядзець на сваё жыццё, на сваё месца ў жыцці.

Як бачым, М. Стральцоў не ідзе па лініі найменшага супраціўлення, не задавальняецца адналінейным, аднамерным і, значыць, збедненым паказам чалавека. Ён разумее, які багаты ўнутраны свет сучасніка, і імкнецца паказаць гэтае духоўнае багацце, складанасць інтэлектуальнага і эмацыянальнага зместу чалавека. Гэта можна было ўжо заўважыць нават у першых апавяданнях «Дома», «Мацеевы дровы».

Пачынаеш чытаць апошняе з іх з пэўным недаверам: ці мала пісалася ўжо аб тым, як селянін едзе па дровы, і пісалася прыблізна так жа—«Завіхурыла адразу пасля каляд», «Старому неспакойна. Выйдзе на двор, каб кінуць карове мурагу...» Але вось спыняешся на радках, якія перадаюць стан старога, што толькі прачнуўся: «Стала прыемна ад нейкай асаблівай глыбокай і мяккай цішыні, што панавала ў хаце. І была яшчэ думка аб тым, што вось як добра прачнуцца ў такі глухі і, напэўна, перадранішні час, моўчкі глядзець у цемень і ведаць, што за вокнамі праходзіць ноч». Радкі ўражаюць. Перад намі — тонкі экскурс у свет чалавечай псіхалогіі.

*Незабыўны 1812-ы*

# ЭКРАНІЗУЕЦЦА «ВАЙНА І МІР»...

З вялікім хваляваннем чакала я сустрэчы з выдатным нашым савецкім мастаком Сяргеем Фёдаравічам Бандарчуком.

Наша знаёмства адбылося ў адным з пакояў трэцяга паверха трэцяга корпуса кінастудыі «Масфільм». Група «Вайна і мір» тут толькі што займалася раскадроўкай сцэнарыя.

Я адразу пазнала ў худзенькай, зграбнай дзяўчыне з вялікімі светлымі вачыма гераіню будучага фільма. Партрэт яе ўжо ў грыме, у касцюме вісеў тут жа на адной са сцен. Пераводзячы позірк з партрэта на дзяўчыну, можна было ўлавіць іменна агульныя непаўторныя рысы знешняга аблічча Наташы Растовай у «Вайне і міры». Так я пазнаёмілася з Люсяй Савельевай, выканаўцай ролі Наташы ў будучым фільме. У пакой уваходзілі і іншыя акцёры ў грыме і касцюмах.

Потым асістэнт рэжысёра запрасіў мяне спусціцца ўніз на першы паверх, дзе ў павільёне Бандарчук павінен быў весці пробныя здымкі некаторых сцэн. На здымачнай пляцоўцы новае пазнаванне. Убачыўшы сцэну, я адразу ж пазнала ў стройным элегантным афіцэры маладога князя Андрэя Балконскага, а ў мяккім паўнаватым арыстакраце — П'ера Бязухава. Увайшоўшы ў гэты свет бессмяротных вобразаў вялікага пісьменніка, у свет такі знаёмы і любімы з дзяцінства, пазнаны ў школьныя гады, я падумала аб велічы справы, якую робяць нашы савецкія мастакі, аб велічы задач, якія стаяць перад імі. І як радасна, што на чале гэтага вялікага калектыву, закліканага стварыць кінатвор, дастойны яго вялікай першакрыніцы, стаіць С. Ф. Бандарчук, выдатны кінаакцёр і рэжысёр.

Пакуль ён вёў пробныя здымкі, мне далі магчымасць паназіраць за тым, што адбываецца на здымачнай пляцоўцы і прагледзець па маёй просьбе пісьмы, якія паступілі ў адрас здымачнага калектыву ад кінагледачоў.

— Пісьмы, карэспандэнцыі, пасылкі, — гаворыць памочнік Сяргея Фёдаравіча рэжысёр Анатоль Чамадураў, — прыходзяць з усіх куткоў краіны, ад людзей розных узростаў і розных прафесій. Аўтары многіх з іх хочуць быць актыўнымі памочнікамі творчага калектыву. Яны прапануюць, раяць.

Здымачны калектыў атрымаў нямала каштоўных кніг, даведнікаў, рэдкіх фатаграфій з адлюстраваннем старой Масквы, карцін і многіх іншых матэрыялаў, якія дапамагаюць больш выразна ўявіць тую далёкую эпоху, якую ўзнаўляюць мастакі на экране.

...Работа ў павільёне закончана, аб'яўляецца перапынак на абед і Сяргей Фёдаравіч згаджаецца адказаць на пытанні карэспандэнта.

— Перад нашым здымачным калектывам, — гаворыць Бандарчук, — пастаўлена задача — зняць каляровы шырокафарматны фільм. Адначасова здымем варыянт для звычайнага экрана. Наш фільм трохсерыйны, усе серыі будуць здымацца адначасова. Што намі зроблена на першым этапе? Мы завяршылі работу над складаннем падрабязнага плана карціны, зрабілі рэжысёрскую распрацоўку сцэнарыя, правялі ўсе акцёрскія пробы.

Вывучаючы багацейшыя матэрыялы аб вайне 1812 года ў музеі Л. М. Талстога, расказвае С. Бандарчук, нам прадставілі вялізарны іконаграфічны і тыпалагічны матэрыял. Партрэты продкаў і сваякоў Талстога, малюнкі, на якіх былі паметкі, зробленыя рукой вялікага пісьменніка. У Гістарычным музеі нам прадаставілі зусім унікальныя матэрыялы аб эпосе вайны 1812 года. Гэта партрэты палкаводцаў рускай і французскай армій, узоры зброі, касцюмы, статуты...

Творчы калектыў зрабіў паездку ў Ясную Паляну, у Барадзіно і ў многія іншыя месцы, дзе захаваліся старадаўнія сядзібы, дваранскія дамы, гарадскія будынкі, характэрныя для Расіі таго часу.

Паводле слоў С. Бандарчука, поўнасцю захавана кампазіцыя талстоўскага рамана. Карціна задумана як гістарычная кінаэпапея, якая адкрые перад гледачом шырокую панараму жыцця і быту Расіі пачатку XIX стагоддзя.

Вялікай і сур'ёзнай задачай было падабраць з мноства прэтэндэнтаў акцёраў на ролі фільма. Гэты вельмі адказны момант у стварэнні новай карціны цяпер ужо лічыцца пройдзеным этапам.

**Барадзінскае поле, аб славе якога мы асабліва многа думаем у гэтыя дні. Так яно выглядае з боку Шавардзінскага рэдута.**

**Фота Г. ІВАНОВА.**

У акцёрскіх пробах удзельнічалі выканаўцы розных пакаленняў.

Здымацца ў ролі Андрэя Балконскага запрошан вядомы кінаакцёр Алег Стрыжэнаў. Князя Н. А. Балконскага будзе іграць народны артыст РСФСР А. Ктораў, графа Растова — народны артыст СССР В. Станіцын, княжну Мар'ю — выпускніца Ленінградскага тэатральнага інстытута Тоня Шуранова, Напалеона—артыст Ленінградскага Вялікага драматычнага тэатра імя А. М. Горкага В. Стрыжальчык...

Сяргей Фёдаравіч паказвае вялікі тоўсты альбом. У ім лісты, на якіх падрабязна апісан і намаляван кожны кадр будучага фільма.

— Цяпер мы пачалі ўжо натурныя здымкі, — працягвае сваё апавяданне рэжысёр. — Першыя кадры здымаем у Маскоўскім Крамлі, на Краснай плошчы, ля храма Васіля Блажэннага, у Нова-Дзевічым манастыры, у некаторых месцах Падмаскоўя. Барадзінскую бітву здымем на самым жа Барадзінскім полі. Наш галоўны ваенны кансультант —генерал арміі В. Курасоў. У Барадзінскай бітве прыме ўдзел 12 тысяч салдат. Нашым літаратурным кансультантам з'яўляецца відны савецкі літаратуразнаўца прафесар Н. Гудзій. Работа над фільмам працягнецца каля паўтара года.

...Здымкі фільма «Вайна і мір» творчы калектыў пачаў у пярэдадзень 150-годдзя Барадзінскай бітвы. Гэта выдатная падзея і для здымачнага калектыву. Бо антываенныя і глыбока гуманныя народныя ідэі «Вайны і міру» сугучны і нашаму часу.

**Г. БАКШЭЕВА,**
**спец. карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».**

